# наша свабода

№49(136) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

16 ТРАЎНЯ 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Паказвае беларуская «абаронка»

*Учора ў Мінску адкрылася міжнародная выстава «Мінскі салон абароннай прамысловасці» MILEX-2001. Гэта першая выстава такога кшталту, якая праходзіць у Беларусі.*

Як вядома, у нашай краіне з савецкіх часоў захавалася дастаткова прадпрыемстваў, што належаць да ваенна-прамысловага комплексу або вырабляюць прадукцыю абароннага характару. Аднаго беларускага рынку гэтым прадпрыемствам, відавочна, замала, таму робіцца вялікія намаганні па прыцягненні замежных пакупнікоў. Таму правядзенне абароннага салона ў Мінску можа лічыцца даволі ўдалым крокам на шляху да пакупніка.

У якасці арганізатараў выставы выступаюць кампанія «Белэкспа», міністэрствы прамысловасці і абароны, а спансіравала мерапрыемства кампанія «Белтэхэкспарт», якая і спецыялізуецца на продажы беларускага ўзбраення за мяжой. Як паведамілі арганізатары выставы, на *MILEX-2001* прадставілі сваю прадукцыю 80 кампаніяў з 17 краінаў свету, сярод якіх – Расія, Славакія, Украіна і інш. Аднак зьбольшага ў выставачнай зале прысутнічалі беларускія прадпрыемствы.

Цэнтральнае месца ў экспазіцыі салона заняло сумеснае беларуска-расійскае прадпрыемства «Мінатор-сэрвіс», якое ўжо на працягу года шырока рэкламуе сваю эксклюзіўную распрацоўку – разведвальна-дыверсійную машыну 2Т. Сама машына стаіць у цэнтры залы, побач з ёй на экране тэлевізара можна пабачыць 2Т у дзеянні – пад музыку Вівальдзі разведвальна-дыверсійная машына прыгожа пераадольвала кар'еры і бездарожжа. Зрэшты, па сведчанні агенцтва *Associated Press*, 2Т далёка не заўсёды становіцца правяўляла сябе – на буйнейшай выставе ўзбраення *IDEX'2001* у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах у лютым падчас дэманстрацыі 2Т задыміўся і заглох.

Апроч разведвальна-дыверсійнай машыны, «Мінатор-сэрвіс» прэзентаваў і іншы экспанат – зенітную самаходную ўстаноўку ЗСУ-23-4М5 «Шылка». СП займаецца мадэрнізацыяй гэтай вядомай тэхнікі.



Фота IREX/ProMedia

Беларускае оптыка-механічнае аб'яднанне прадставіла сваю прадукцыю, якая карыстаецца дастатковым попытам як у нашай краіне, так і за мяжой, – аптычныя прыцэлы, прыборы навядзення і іншую высокададладную апаратуру.

Барысаўскае прадпрыемства «140 рамонтны завод» прадставіла некалькі тыпаў расійскіх баявых машынаў, мадэрнізаваных у Беларусі.

Да *MILEX-2001* праявілі пэўную цікавасць некалькі замежных дэлегацыяў. Ужо ў дзень адкрыцця сярод наведвальнікаў выставы былі прадстаўнікі Паўночнай Карэі, В'етнама, арабскіх і афрыканскіх краінаў.

На рынку ўзбраенняў Беларусі даводзіцца канкураваць з такімі тытанамі, як ЗША, Расія, Францыя. Натуральна, што ўсе «лепшыя кавалкі» дастаюцца ім. Але Беларусь усё ж мае перад імі пэўную перавагу. Цывілізаваныя краіны не вельмі любяць звязвацца з дзяржавамі «трэцяга свету», якія лічацца «выгнаннікамі» міжнароднай супольнасці – кантракты з імі, асабліва ў галіне гандлю зброяй, падрываюць міжнародную рэпутацыю. Беларусі тут траціць няма чаго, таму наша краіна не камплексуе і ахвотна звязваецца з такімі кліентамі. Асабліва «прыемным» тут падаецца той факт, што краіны-«выгнаннікі», як правіла, замілітарызаваныя дзяржавы, і, каб не адстаць ад праціўнікаў, рэгулярна набываюць вялікую колькасць найнавейшай зброі.

Беларусь, канешне, амаль не можа пахваліцца новай бронетэхнікай (апроч 2Т), але можа прапанаваць паслугі па мадэрнізацыі старой тэхнікі. Гэтаму наша «абаронка» навучылася.

Пакуль што рана ацэньваць плёнасць *MILEX-2001* для ВПК Беларусі – патэнцыйныя спажыўцы абароннай тэхнікі толькі пачалі прыглядацца да экспанатаў. Праца выставы працягнецца да 18 траўня.

У рамках выставы ўзбраення праходзіць навуковы семінар «Высокія тэхналогіі абароннага комплексу». На ім разглядаюцца такія пытанні, як распрацоўка і мадэрнізацыя радыёлакацыйных станцыяў супрацьпаветранай абароны, стварэнне і арганізацыя камандных пунктаў і пунктаў кіравання войскамі, выкарыстанне тэхналогіяў двайнога ўжывання, прымяненне ваенных тэхналогіяў у ваеннай сферы і г.д.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Праклён мінскіх кіроўцаў

Людзі, найбольш незадаволеныя інтэграцыяй Беларусі як з Расіяй, так і з іншымі краінамі СНД – гэта кіроўцы. Прыезд у Мінск нават адной афіцыйнай дэлегацыі можа стварыць шматгадзінныя пробкі на вуліцах беларускай сталіцы. А калі гэтых дэлегацыяў – 11? Дарожны рух перапрацоўваецца ў сапраўдны дарожны прастой.

Між тым, той факт, што Мінск з'яўляецца сталіцай Садружнасці незалежных дзяржаваў, абавязвае сталіцу час ад часу прымаць высокія міжнародныя форумы. Вось і цяпер, як паведаміў выканаўчы сакратар СНД Юрый Яраў на прэс-канферэнцыі ў Маскве, чарговы саміт дзяржаваў-удзельніцаў Садружнасці адбудзецца ў Мінску 31 траўня-1 чэрвеня. Па словах Ю.Ярава, 31 траўня ў першай палове дня пройдзе паседжанне Савета міністраў замежных спраў СНД, а ў другой палове дня – Савета кіраўнікоў урадаў.

У пятніцу, 1 чэрвеня, у 12.00 адбудзецца сустрэча кіраўнікоў дзяржаваў Садружнасці. Яна будзе працягвацца пачатары гадзіны і пройдзе за закрытымі дзвярыма. Натуральна, што для кожнай з 11 прыехаўшых дэлегацыяў трэба будзе рабіць «зялёную вуліцу», прымушаючы ўвесь наземны транспарт прастойваць у чаканні чорных лімузінаў. Таму раім усім у гэтыя дні – 31 траўня і 1 чэрвеня – па магчымасці карыстацца толькі метро. Гэта будзе адзіны від транспарту, які не пацерпіць ад саміта.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Тэатр аднаго акцёра

*18 траўня Беларусь стане сведкам яшчэ аднаго палітычнага шоу, якое пройдзе ў Палацы Рэспублікі пад патранажам А.Лукашэнкі*

Гэта – другі Усебеларускі народны сход, на які збяруцца 2.500 адмыслова адабраных прэзідэнцкай адміністрацыяй дэлегатаў. БелТА са спасылкай на Рэспубліканскі аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенні акцыі растыражавала паведамленне пра «высокія якасныя характарыстыкі» дэлегатаў: 81% удзельнікаў палітычнага шоу маюць вышэйшую адукацыю, больш за трэць з'яўляюцца нібыта рабочымі, інжынерна-тэхнічнымі работнікамі і вяскоўцамі, яшчэ амаль трэць – 755 жанчынаў. Паведамляецца, што сярод дэлегатаў – больш за 20% ёсць дэпутатамі мясцовых Саветаў, а 10% дэлегаванага палітычнымі партыямі.

Між тым, паводле апытання сацыялагічнай службы «Люстэрка» інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, толькі 16% з 500 рэспандэнтаў адабраюць правядзенне сходу; 37% апытаных называюць гэта непатрэбным мерапрыемствам, якое, «акрамя траты грошай, нічога не дасць». А 42% не здолелі адказаць на пытанне «Як вы ацэньваеце мэючы адбыцца форум?»

2.500 тысячам трэба будзе сказаць «адабрамс» праграме асноўных накірункаў сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2001-2005 гады. Аднак 11 траўня, на адкрыцці Савета бяспекі Беларусі, А.Лукашэнка гаварыў пра дзве сферы жыцця: эканоміку і палітыку. Менавіта ў плоскасці другой ляжыць галоўны сэнс і інтрыга сходу. Гаворыць, што на сходзе можа быць прынятае рашэнне пра чарговы рэферэндум ці што паўнамоцтвы выбіраць кіраўніка дзяржавы будуць перададзеныя паслухмянай палаце №2 – і ў тым, і ў другім выпадку Беларусь атрымае абяцаных 12 гадоў з А.Лукашэнкам.

У звязку з гэтым вядучыя апазіцыйныя палітыкі каментуюць рыхтуемы ўладамі спектакль.

**Экс-міністр абароны Павел КАЗЛОЎСКІ:**

— Многа розных чутак ходзіць. Гэтым сходам могуць быць прынятыя розныя праквацыйныя рашэнні, бо бюў пільнейшы адбор кандыдатаў на паўнамоцтвы дэлегатаў (я з многімі сустракаўся, гаварыў), што гаворыць за адно: ніякіх дакументаў для абмеркавання няма, няма нічога – яны ідуць усёмную. Галоўная задача, што ставіцца перад імі, – яны мусяць падтрымаць тое, што будзе агучана на гэтым сходзе. У гэтым і заключаецца ўся небяспека. Небяспека ў тым, што там не акажацца людзей, якія насмеляцца выступіць з альтэрнатыўным пунктам погляду.

Можа быць прынятае любое правакацыйнае рашэнне, хаця якое канкрэтна – сказаць складана.

**Старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімір ГАНЧАРЫК:**

— Я думаю, што, хутчэй за ўсё, будзе агучаная дата выбараў і будзе цалкам зацверджаная праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2001-2005 гады. У прынцыпе, гэта будзе не лепшая акцыя ўладаў, а з улікам вопыту, і горшая за першы сход. Таму чакаць нейкага сур'ёзнага разбору, аналізу не прыходзіцца – гэта перадвыбарчае шоу ў рамках раскруткі аднаго з кандыдатаў.

Што да рэферэндуму, то наўрад ці нешта падобнае будзе прынятае.

*Заканчэнне на стар.3*

## Накралі на мільярд

З пачатку года 5.780 спажыўцоў электраэнергіі, зауважаных у крадзяжы, былі адключаныя ад электрычнасці. Сёлета служба энерганагляду выкрыла крадзёж амаль 11 мегават электраэнергіі на агульную суму больш як на 1 мільярд рублёў. Па выстаўленых рахунках канцэрн «Белэнерга» спагнаў толькі 44% ад неабходнай сумы аплаты. У мінулым годзе ступень аплаты была ў 1,5 раза болей.

## Замала спраўных камбайнаў

Да пачатку сенакосу неабходна адрамантаваць кожны трэці, а да ўборкі ўраджаю – кожны другі. Усяго трэба паладзіць каля 4 тысячаў зношаных адзінак парка сельскагаспадарчай тэхнікі.

## У Мінску дэфіцыт педагогаў

На сённяшні дзень у сталічных школах не стае 1.200 настаўнікаў. У выніку гэтага нагрузка на аднаго педагога павялічылася да 30-32 гадзінаў на тыдзень. Асабліва мала выкладчыкаў замежных моваў. Тое самае становішча і ў дзіцячых садках, дзе не хапае каля тысячы выхавацелек.

## Беларусь не плаціць сяброўскіх унёскаў

Беларусь вінная перад разнастайнымі міжнароднымі арганізацыямі каля 65 мільёнаў долараў членскіх складак. Запазыка склалася з тае прычыны, што артыкулы бюджэту па выдатках былі сёлета скарочаныя на 8% і накіраваныя на тэрміновае павелічэнне заробку бюджэтнікам і крэдытаванне суб'ектаў сельскай гаспадаркі.

## Пагроза гнюсу

Сёлета на Палессі назіраўся дужа масавы прыплод мошак. Спецыялісты чакаюць, якія будуць страты ад іх хатняй жывёле, якая ў той альбо іншай ступені штогод цярпіць ад гнюсу. Урадам на супрацьгнюсавыя мерапрыемствы ўжо выдаткавана 500 мільёнаў рублёў.

## Нацбанк робіць зніжку

З 21 траўня зноў зменена стаўка рэфінансавання Нацыянальнага банка Беларусі. Стаўка зніжаная на 4% і цяпер будзе складаць 64% гадавых. Гэта чацвёртае змяненне стаўкі рэфінансавання сёлета, напачатку года яна была 80%.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1360

# Тэатр аднаго акцёра

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

**Старшыня АГП Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:**

— Гэты сход — звычайная піяраўская кампанія, якую раскручвае адзін з магчымых прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта Беларусі, які, у адрозненне ад іншых, афіцыйна распачаў сваю кампанію і робіць гэта публічна. Пры гэтым ні Цэнтрвыбаркам, ні праваахоўныя органы ніякім чынам не рэагуюць. Для нас цікавасць гэтага мерапрыемства заключаецца толькі ў наступным. Тыдні з два таму мы накіравалі Аляксандру Рыгоравічу пісьмо, у якім назвалі рэчы сваімі імёнамі (абман людзей, праз сіта адбіраюцца толькі выгадныя людзі, а таму разлічваць на шчырую размову пра сітуацыю не прыходзіцца) і прапанавалі яму даць згоду на ўдзел у мерапрыемстве некалькіх прадстаўнікоў АГП. Мы для сябе не просім ні месцаў у гатэлі, ні катлет па-шклоўску, якія, магчыма, там будуць прапанаваныя, ні падарункаў. Адказу мы не атрымалі. У бліжэйшыя дні ўсё ж паспрабуем у адміністрацыі даведацца пра лёс нашай прапановы.

Чуткі пра магчымы рэферэндум я расцэньваю як звычайны піяраўскі крок, які разлічаны на тое, што гэтую тэму падымуць СМІ. Такія думкі прагучаць, але Лукашэнка будзе трымаць гэтую ідэю ў рэзерве і наўрад ці прыменіць рэферэндум да выбараў. Гэта, хутчэй, ён скарыстае для ўмацавання сваёй передвыбарнай платформы.

Я думаю, што вушы такіх чутак растуць з адміністрацыі Лукашэнкі. Я думаю, што Лукашэнка не пойдзе і на тое, каб абірацца палатай. Любы аўтарытарны дзеяч сваю дзейнасць праводзіць на «легітымнасці» ад народа. Я выключаю такі сцэнар.

**Лідэр нефармальнага аб'яднання «Рэгіянальная Беларусь» Сямён ДОМАШ:**

— Мне падаецца, што сход стане звычайным шоу ў падтрымку Лукашэнкі. Але не выключана, што будуць гучаць прапановы кшталту не рабіць нават выбараў, а правесці чарговы рэферэндум. Я не перакананы, што падобныя рашэнні будуць прынятыя, але такія чуткі ходзяць. Як мне падаецца, гэта, хутчэй за ўсё, будзе шоу ўсенароднай падтрымкі і просьба да Лукашэнкі ад усяго народа балатавацца яшчэ на адзін тэрмін.

**Рыгор БУЯН**



Фота IREX/ProMedia

# Адзіны кандыдат жыве

## *КРДС схіляецца назваць адзіным кандыдатам у прэзідэнты С.Домаша*

15 траўня, праз месяц вымушанага перапынку, Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў фактычна вызначыла ўласную пазіцыю на прэзідэнцкіх выбарах. На наступным паседжанні праз тыдзень КРДС ужо назаве адзінага прэтэндэнта ў прэзідэнты, і ім, верагодней за ўсё, стане лідэр «Рэгіянальнай Беларусі» Сямён Домаш. Менавіта яго будзе падтрымліваць Каардынацыйная рада.

Старшыня БНФ Вінцук Вячорка заявіў, што такое рашэнне з'яўляецца своеасаблівым знакам для «пяцёркі» для хутчэйшага вызначэння паміж сабой адзінага кандыдата. «Мы абмеркавалі становішча, якое ўзнікла пасля падпісання вядомага пагаднення «пяцёх»; было падкрэслена, што пагадненне не ёсць кааліцыя, што ўсім дэмакратычным прэтэндэнтам – нагадаю, што вылучэнцаў ад КРДС ёсць чацвёра – усё роўна давядзецца абапірацца на арганізацыйныя структуры КРДС. Мы дамовіліся, што ўсе суб'екты КРДС пастараюцца вызначыцца з падтрымкай таго ці іншага прэтэндэнта сярод чатырох. Многія прадстаўнікі рэгёнаў і партыяў падкрэсліваюць, што іхнія прадстаўнікі не за двух, трох, чатырох прэтэндэнтаў, а толькі за аднаго. Гэта ёсць важнае пасланне самім кандыдатам, бо, на жаль, разлічваюць, што нейкія структуры будуць сінхронна збіраць за некалькіх чалавек подпісы. Так не будзе. Я думаю, што на наступнае паседжанне мы выйдзем з моцным сігналам да «пяцёркі», каб яны вызначаліся паміж сабой», — падкрэсліў Вінцук Вячорка.

Старшыня фракцыі «За адзінства» ўнутры Народнай Грамады Аляксей Кароль пацвярджае, што КРДС прызнае «факт вылучэння «пяцёркі», КРДС арыентуецца на «чацвёрку». Аднак А.Кароль, у адрозненне ад лідэра БНФ, выказваўся болей канкрэтна па магчымым кандыдаце ад КРДС: «Структуры арыентуюцца – практычна гэта ўжо вызначана – падтрымаць Сямёна Домаша». Пры гэтым, паводле А.Караля, «арыентуючыся на Домаша, мы не павінны забываць перспектыву адзінага кандытата ад «пяцёркі», што кожны з гэтай «пяцёркі» – і Домаш сёння гэта пацвердзіў – гатовы саступіць месца мацнейшаму». І ўсё ж «на дадзеным этапе галоўнае – еднасць каманды і тых ініцыятыўных групаў, якія арыентуюцца на Домаша», — заявіў А.Кароль.

Роўна праз тыдзень Каардынацыйная рада назаве свайго адзінага кандыдата (ужо няма сумненняў, што ім стане Сямён Домаш), на падтрымку якога будуць кінутыя арганізацыйныя, людскія, тэхнічныя рэсурсы, якімі валодае Каардынацыйная рада.

**Рыгор БУЯН**

# Спартоўцы ня бачаць пэрспэктываў выступаць за Беларусь

Працягваецца масавы сыход беларускіх спартоўцаў пад сьцягі іншых краінаў. Учора ў інтэрвію расейскай тэлекампаніі НТВ пра свой намер пакінуць Беларусь, каб выступаць за зборную Расеі, паведаміла двухразовая чэмпіёнка сьвету па велатрэку Натальля Маркаўнічэнка. Сваё рашэньне яна патлумачыла, сярод іншага, палітычнай нестабільнасьцю ў Беларусі.

На сёньняшні момант Натальля Маркаўнічэнка — безумоўная міжнародная лідэрка ў сваёй дысцыпліне. Таму «палявалі» на яе вялі многія трэнэрскія штабы. Удзел у гэтым браў нават мэр Масквы Юры Лужкоў, які выдаў загад даць спартоўцы кватэру, незалежна ад ейнага рашэньня, дзе яна будзе выступаць далей. Дагэтуль Маркаўнічэнка лічыла за гонар выступаць за Беларусь. Але ва ўчорашнім інтэрвію падкрэсьліла: надышоў час задумацца пра будучыню. Для сябе час выбару яна акрэсьліла да восені. Адрозна ад Маркаўнічэнкі, іншыя спартоўцы робяць высновы на карысьць матэрыяльных стымулаў хутчэй. Апошнім часам Беларусь страціла цэлую плеяду як маладых, так і заслужаных спартоўцаў. Вось толькі невялікі пералік былых беларускіх майстроў: Барыс Гельфанд (шахматы, Ізраіль), Зьміцер Маркаў (скачкі з шостам, Аўстралія), Эдуард Хамеляйнэн (дзесяцібор'е, Фінляндыя), Юлія Сіняк (стральба, Расея), Ганна Смашнова (тэніс, Ізраіль), Юлія Ваткіна (гімнастыка, Аўстралія), Мадзіна Біктагірава (лёгкая атлетыка, Расея). Апошні перад Маркаўнічэнкай прыклад — выбар на карысьць Аўстраліі бронзавай прызэркі Алімпіяды ў Сыднэі ў стральбе Лаліты Яўтлеўскай. Каб высьветліць прычыны сыходу беларускіх спартоўцаў за мяжу, я патэлефанаваў у Канбэру, дзе зараз жыве сям'я Яўтлеўскай. Вось што распавяла Л.Яўтлеўская: «Мы паехалі працаваць, а потым вырашылі й застацца. У Беларусі мы ня мелі таго, што маем тут. Гэтым жа кіруюцца й астатнія. Мы ўжо, прыкладам, купляем вялікі дом — у Менску гэтага сабе не дазволілі б ніколі. А тут заробку хапае і на дом, і апранацца, і добра харчавацца, і дзяцей у нармалёвыя школы ўладкоўваць. Калі б нам у Беларусі хоць бы своечасова далі нейкае жытло (дагэтуль жылі ў аднапакаёвай кватэры, а фірма, у якой будаваліся, развалілася, і мы засталіся бяз грошай). Але ж дзяржаўную дапамогу даць адмовілі, і муж вымушаны быў шукаць варыянтаў, каб зарабіць». Мажліва, што наступныя выступы Л.Яўтлеўскай будуць за каманду Аўстраліі. Яна кажа, што від на жыхарства атрыманы, і «цяпер, каб выступаць за Аўстралію, патрэбнае грамадзянства. Абяцалі зрабіць гэта хутчэй, бо я не магу без грамадзянства выехаць выступаць за межы краіны. Пакуль удзельнічаю ва ўнутраных спаборніцтвах. Вядома, калі б усе ўмовы былі ў Менску, мы ніколі ня зьехалі б. Але што рабіць, калі пэрспэктывы ніякай? Туліцца ў аднапакаёвай кватэры ды зьбіраць на трохпакаёвую? А машыну абслугоўваць, а астатняе?» Дарэчы, паралельна са спартоўцамі актыўна пакідаюць радзіму й іхныя трэнэры. Корбут, Шчэрба, Байдачны, Ваткін, Шынкар ды іншыя знайшлі на розных кантынэнтах нашмат спрыяльнейшыя ўмовы для сваёй дзейнасьці. Што да міграцыі наадварот, калі спартоўцы едуць паспрабаваць шчасьця ў Беларусь, то спэцыялісты адзначаюць толькі адзін, ды й тое не зусім удалы выпадак. Былая расейская фігурыстка Юлія Салдатава на міжнародных спаборніцтвах ужо каторы сэзон запар ня можа ўзьняцца вышэй за 20-е месца.

**Ігар КАРНЕЙ, Радыё Свабода**

# Паказвае беларуская «абаронка»





Фота IREX/ProMedia





● На «Мінскім салоне абароннай прамысловасці» *MILEX-2001* было дастаткова цікавостак для ўсіх: віцэ-прэм'ера Валерыя Кокарава, кіраўніка вайсковай дэлегацыі Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў палкоўніка Саіда Ал Шахі і нават для маладых дзяўчынаў. Афіцыйнае адкрыццё выставы было аздобленае традыцыйным ужо выступам спецназа.

# Каталізатар для «пяцёркі»

19 траўня Нацыянальны выканаўчы камітэт АГП вызначыцца са сваім удзелам у прэзідэнцкіх выбарах. На парадку дня стаяць два пытанні: пра інфраструктуру прэзідэнцкай кампаніі і пра адзінага кандыдата. У рамках другога пытання будзе разглядацца і сенсацыйны варыянт, які цяпер абмяркоўвае кіраўніцтва партыі, — вылучыць яшчэ аднаго, а то і некалькі кандыдатаў у прэзідэнты. Дадатковыя прэтэндэнты мусяць, на думку кіраўніцтва АГП, стаць своеасаблівым каталізатарам актывізацыі «пяцёркі».

«Такога рашэння яшчэ няма; мы наогул абмяркоўваем сітуацыю з патэнцыйнымі прэтэндэнтамі. АГП выказвае сваю заклапочанасць – вітаючы стварэнне «пяцёркі» – тым, што няма вырашэння пытання, няма *абсалютнай* яснасці, якім чынам мы выйдзем на адзінага кандыдата... Тут ёсць пэўныя складанасці. Таму мы будзем вывучаць сітуацыю, і я не выключаю, што мы запросім патэнцыйных кандытатаў на Нацыянальны камітэт, каб выслухаць іх і ўсё ж такі атрымаць нейкую яснасць у гэтым пытанні», — заявіў НАШАЙ СВАБОДЗЕ старшыня АГП Анатоль Лябедзька.

Адзін з магчымых фігурантаў на шостага прэтэндэнта намеснік старшыні АГП Аляксандр Дабравольскі заявіў, што «не даў сваёй згоды на вылучэнне». «Ад АГП я, напэўна, не буду вылучацца. І ўвогуле, само вылучэнне яшчэ стаіць пад вялікім пытаннем; мы вельмі пільна адсочваем сітуацыю з тым, каб падобны крок не пашкодзіў, а дапамог агульнай справе. Партыя не павінна вылучаць кандыдата, калі яшчэ адзін кандыдат і з'явіцца, то не ад партыі – ад ініцыятыўнае групы», — сцвярджае А.Дабравольскі.

Няма ніякай гарантыі, што ў выніку «пяцёрка» здолее вызначыцца з адзіным кандыдатам. Вылучэнне яшчэ аднаго, а то і некалькіх прэтэндэнтаў можа ўскладніць і заблытаць сітуацыю яшчэ болей. «Такое магчыма, — згаджаецца А.Дабравольскі. – Мы ўсё ўзважваем, і калі ўбачым, што мінусаў болей, чым плюсаў, — гэтага рабіць мы не будзем. На самой справе, адны толькі чуткі пра вылучэнне яшчэ аднаго прэтэндэнта разварушылі «пяцёрку» вельмі моцна, таму што падпісанне іхняга звароту 25 красавіка адбылося з нашым удзелам. Было вельмі цяжка іх прымусіць падпісаць той зварот».

**Рычард ЛЬВОЎ**

# Ахвяры аварыяў

Штогод у Беларусі ад траўм, атрыманых у аварыях, стыхійных бедствах і катастрофах гінуць больш чым 6 тысяч чалавек. Пра гэта паведаміў прэзідэнт Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа Антон Раманоўскі 15 мая на прэс-канферэнцыі, прысвечанай ролі першай дапамогі ў памяншэнні наступстваў траўматызму.

Паводле слоў члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктара медыцынскіх навук, дырэктара Беларускага навукова-даследчага інстытута траўматалогіі і артапедыі Яўгена Белаенкі, у структуры смяротнасці насельніцтва траўматызм займае трэцяе месца. Як заўважыў спецыяліст, смяротнасць ад траўм, атручанняў і іншых няшчасных выпадкаў за перыяд з 1994-га па 1999 год узрасла з 14.347 да 17.100 выпадкаў. Прычым, амаль у 79% выпадкаў ад траўм гінуць мужчыны, у асноўным, працаздольнага ўзросту. Часцей за ўсё трагедыі адбываюцца ў быце і звязаны з ужываннем алкаголя. Акрамя таго, за апошнія пяць гадоў вырас узровень смяротных вытворчых траўм, атрыманых у выніку алкагольнага ап'янення.

Разам з тым спецыяліст адзначыў зніжэнне ўзроўню самагубстваў: іх удзельная вага ў смяротнасці ад траўм скарацілася з 21,9% (у 1994 годзе) да 19,9% (у 1999-м).

**Марат ГАРАВЫ**

# Сціплая сатысфакцыя сп.Адама Мальдзіса

*У нумары за 2 красавіка НАША СВАБОДА надрукавала пераклад нарыса вядомага пісьменніка Сакрата Яновіча «Рэзервацыя Беларусь», які быў напісаны для польскага чытача і апублікаваны* Gazetaj Wyborczaj *напрыканцы сакавіка. Некаторыя тэзы артыкула аспрэчыў старшыня ТБМ Алег Трусаў у артыкуле «Сакрат, ты не маеш рацыі» (НАША СВАБОДА за 20 красавіка), а з ягонай думкай не пагадзілася спадарыня Інэса Касцюк, даслаўшы ў газету ліст «Не маеце рацыі, спадар Трусаў». Але найперш Яновічу адказаў Адам Мальдзіс у беларускамоўнай газеце «Ніва», якая выдаецца ў Беластоку. Якая ж сутнасная праблема гэтых аўтараў узбуджае?*





Адам Мальдзіс, апроч таго, што ён вядомы гісторык літаратуры, пісьменнік, доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, яшчэ ёсць і прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (МАБ). Зразумела, што чым больш ведаюць пра краіну за мяжой, тым лепш для аўтарытэту краіны. Спрыяюць росту аўтарытэту кангрэсы беларусістаў. Апошні адбываўся ў снежні мінулага года ў Мінску.

На гэты кангрэс Адам Мальдзіс меў гонар запрасіць вядомага польскага і беларускага эсэіста і свайго даўняга прыяцеля Сакрата Яновіча. Як неўзабаве аказалася – на сваю бяду. Не запрасіў бы – не меўся б шаноўны прэзідэнт МАБ нервавацца і пісаць яму «Адкрыты ліст» у газету беластоцкіх беларусаў «Ніва», якую чытаюць у Крынках, дзе Сакрат Яновіч стала жыве, калі не ездзіць на кангрэсы.

Пафас «Адкрытага ліста» адлюстроўвае не толькі асабістую крыўду сп. Адама Мальдзіса. Публікацыя, на думку прэзідэнта МАБ, нашкодзіла асацыяцыі. Сённяшні беларускі ўрад беларусістаў ва ўпор не бачыць, і, прыкладам, гэты кангрэс, на які сп. Мальдзіс неабачліва запрасіў прыяцеля, у фінансавых адносінах забяспечваўся грантам ЮНЕСКО. Ва ўсялякім разе гэтак вынікае з радкоў «Адкрытага ліста». Грашовая кампанента ў высвятленні стасункаў займае ў пасланні з Мінска ў Крынкі паважнае месца.

«...*Я сапраўды варты папрокаў,* — прызнаецца Адам Мальдзіс беластоцкаму чытачу. — *Але не ў марнатраўстве, а ў* **звычайным скнарстве**. *Ну маглі мы расходаваць (рабілі запыт) на штодзённае харчаванне спадара Яновіча і іншых нямінскіх калег да шасці мінімальных зарплат, маглі пасяліць гасцей у «Юбілейнай» ці «Планеце», дзе была б тая папера (маецца на ўвазе туалетная. –* ***К.М.****). Але мы ведалі, што грант прыйдзе ў палавінным памеры, а з яго хаця б палавіну трэба будзе пакінуць на выданне матэрыялаў. Бо інакш які сэнс праводзіць той кангрэс?! Дзеля чыноўніцкага прыгожага слоўца? Мы ведалі, што ЮНЕСКО прадпісвае грошы выдаткаваць найперш на сутнасную, навуковую частку кангрэса (значыць, С.Яновіча мы не павінны былі ўвогуле ні карміць, ні ўтрымліваць у гасцініцы, а зрабіць гэта ён быў павінен, паводле крытэрыяў ЮНЕСКО і еўрапейскіх стандартаў, за ўласны кошт, але ж тады не было б і самога кангрэса, яго «змястоўнай» часткі)».*

Таму Адам Мальдзіс мае падставы для абурэння. Бо цяжка пагадзіцца з аўтарам «Рэзервацыі», што ў Мінску было «халаднавата і галаднавата». Халаднавата зімой у Мінску ўсім — кепска топяць усюды, а не толькі ў гатэлях. А вось «галаднавата» – цалкам рытарычная фігура. За тры мінімалкі на дзень (15 тысяч рублёў) у Мінску, канечне, у рэстаран не сходзіш. Але:

*«што – шаноўны стваральнік культуры не ведаў, у якую краіну ён едзе? Не ведаў, што ў нас глыбокі крызіс? Забыў, як выглядаў той жа крызіс нядаўна ў Польшчы? І дзе сп. Яновіч быў шчыры – на старонках часопіса ці пры развітанні ў Мінску, калі мы сядзелі ў маім пакойчыку, пілі каву, гаварылі пра цяжкасці (дарэчы, нашай беднасцю С.Яновіч абураўся сам), пра тое, што грант яшчэ не прыйшоў ... А калі ведаў і абураўся, то чаму напісаў».*

З другога боку, незразумела, чаго было запрашаць на навуковае мерапрыемства чалавека з ненавуковым мысленнем. Яновіч — журналіст і пісьменнік. Менавіта як пісьменнік ён і адрэагаваў на тое, што ўбачыў у сталіцы Беларусі. А найперш ён убачыў ашаламляльную розніцу ў стане беларускасці сёння і пачатку 1990-х гадоў. Ягоны артыкул асэнсаванне нашага ладу. У ім, канечне, хапае недакладнасцяў, а ёсць і абразы. Прыкладам, поўная хлусня, што беларускія інтэлігентныя кабеты лаюць у ложку мужа ці каханка, калі той мармыча словы кахання па-беларуску. «Пошел вон, хам!»— крыўдзяцца тады кабеты па-руску. Я спецыяльна апытаў з паўтара дзесятка знаёмых кабет, усе адказалі, што ў ложку мова іх не турбуе. Але гэты пасаж сп. Яновіч хутчэй за ўсё выдумаў у якасці змрочнага сімвала сучаснага стану беларускай мовы ў шырокіх масах.

Перабраў ён меры і з колькаснай ацэнкай беларускіх школ, пра што трапна адказаў яму ў адкрытым лісце старшыня ТБМ сп. А.Трусаў. Як кажуць, што занадта, то не здрова.

*«Адным словам,* — зазначыў Адам Мальдзіс, — *у польскім часопісе апублікаваны артыкул, які (паказваў юрыстам) любым судом – і польскім, і беларускім – можа кваліфікавацца як «абраза гонару і годнасці». І не толькі маіх, але і ўсіх сябраў асацыяцыі, усіх прысутных на кангрэсе (у тым ліку і калег з Беластока, Варшавы, Любліна). Як наўмысны паклёп, які ўжо нанёс істотную матэрыяльную шкоду ўсёй асацыяцыі, бо пасля публікацыі патэнцыяльныя замежныя «грантадаўцы» раптам пачалі ад нас адмахвацца: хто іх, беларусістаў, ведае – ці то яны ўкралі, ці то ад іх укралі, але нешта там у іх было... За такое аўтара раней выклікалі на дуэль, цяпер б'юць па фэйсу або выклікаюць у суд, каб атрымаць немалую кампенсацыю. Але я не буду пакуль што рабіць ні таго, ні другога, ні трэцяга...»*

(На нашу думку, *па фэйсу* лепш не біць, бо гэта неэстэтычна – усё ж паважнага веку людзі. *Выклік у суд* таксама рызыкоўная задума – наўрад ці ў польскім судзе будзе проста сарваць грошы. Вось у беларускім «рэзервацыйным» працэс можна выіграць, асабліва калі запрасіць экспертамі чыноўнікаў, закранутых у артыкуле. Найлепш адпавядаў бы беларускаму рамантызму першы варыянт – дуэль. Бо гэта стала б рэанімацыяй лепшых традыцыяў нашай старасветчыны і не кінула б цень матэрыльнага клопату на важную сёння «дзелавую рэпутацыю». Можа і патэнцыйныя «грантадаўцы» прасцей пераўтварыліся б у кінетычных).

Але прэзідэнт МАБ сп. Мальдзіс знайшоў «джэнтльменскі шлях вырашэння канфлікту». Вось як ён абмаляваны ў «адкрытым лісце»:

*«Рыхтуючы справаздачу для ЮНЕСКО (а там скрупулёзна правяраюць кожную плацёжку – ведаю з уласнага вопыту), мы пераканаліся, што на выданне шасці зборнікаў з матэрыяламі кангрэса (адзін з іх з тэкстам выступлення самога С.Яновіча, ужо аддаецца ў друкарню) пры самых сціплых тыражах нам не стае прыкладна трэці грошай, дзесьці 2.600-2.700 долараў. Таму патрабую, каб той, хто ўзвёў паклёп на асацыяцыю, быў пакараны за гэта аплатай коштаў друку аднаго са зборнікаў. Якога? Паколькі С.Яновіч з'яўляецца пісьменнікам, думаю, што літаратуразнаўчага... Гэта каля 700 долараў. Разумею, што самому аўтару гэта, мусіць, не пад сілу. Але ж дабрадзея ён можа знайсці. Хаця б сярод тых, хто дае гранты на аўтарытэтны фонд «Villa Sokrates». Рахунак-фактуру друкарні «Юніпол» перасылаю С.Яновічу лістом».*

Не ведаю, ці атрымаў Сакрат Яновіч рахунак-фактуру і як адрэагаваў. Гэтае пытанне за межамі той публічнай сваркі, якая, на жаль, нагадвае вядомы гогалеўскі сюжэт. У рэшце рэшт з рознымі тэзамі артыкула Сакрата Яновіча могуць не пагаджацца розныя людзі. Па некалькіх пазіцыях я таксама з ім абсалютна не згодны. Лічу, што сп. Яновіч няправільна даў назву нашай краіне — «Рэзервацыя Беларусь», хоць гэта і адпавядае абрэвіятуры РБ, якая набыла такім чынам шырэйшы сэнс.

Бо было б добра, калі б Беларусь аказалася рэзервацыяй, як індзейскія ў Амерыцы ці рэзервацыі папуасаў у Аўстраліі. У нас нашмат хужэй – мы сёння ёсць КРАЙ ЗАБРАНЫ. У рэзервацыі прасцей захоўваць сваю асаблівасць. У КРАІ ЗАБРАНЫМ яе замяняюць на патрэбную забаронцам. Так было і з карэннай Польшчай пасля 1795 і асабліва пасля 1831 года. Паказальна, што забранасць Беларусі жадаюць афарміць парламенцкім паседжаннем у Гродне, як тое было на апошнім гарадзенскім сойме Рэчы Паспалітай. Дрэнна, што сп. Яновіч не ўзгадаў пра гэта ў сваім артыкуле.

Менавіта з гэтай прычыны – новага забору — кожнае беларускае дзеянне сёння – ад дэманстрацыяў, выдання кнігі, да размовы па-беларуску на вуліцы — набірае значэнне супраціву лукашэнкаўскаму рэжыму, які старанна здзяйсняе забор. Навучыла выхавацелька дзіцяў гаварыць «дабранач, татка», а не «спокойной ночи, папочка» — гэта і ёсць дзеянне за выжыванне нацыі. Таму ў нас кожны беларускамоўны клас кандэнсуе вялікія намаганні людзей дзеля волі.

Сутнасная розніца пазіцыяў сп. Мальдзіса і сп. Яновіча вось у чым. У сп. Мальдзіса яна — стваральная. У артыкуле сп. Яновіча — разбуральная, ён падае вынік разбурэння. Не хочацца тут лезці ў гісторыю і нагадваць Яновічу, што перад увядзеннем у Польшчы ваеннага становішча генералам Ярузельскім, у памежных з Польшчай лясах стаяла напагатове немалое савецкае войска. А ў нас яно па сённяшні стаіць. А калі зірнуць крыху глыбей, дык усё ж з 1921 па 1939 гады Заходняя Беларусь (4 мільёны насельніцтва) была ў складзе Рэчы Паспалітай. І хто дбаў там пра вышэйшую і сярэднюю адукацыю на беларускай мове? Тое ж робіць зараз на Беларусі расійская пятая калона.

Такое вось у нас жыццё. І таму доктар філалогіі, прэзідэнт МАБ, вядомы літаратуразнаўца сп. Адам Мальдзіс па-беларуску сціпла выпрошвае дзе можа грошы на беларускую справу. Наколькі гэта ўдзячная справа, перадаю цытатай з «адкрытага ліста»:

*«Да кангрэса мы ўжо атрымалі адказы ад многіх беларускіх банкаў і фірм, што яны ну анічым не могуць дапамагчы кангрэсу (толькі «Белатракцыён» пералічыў нам суму, роўную 50 доларам, — дзякуй яму і за гэта)».*

Сумная атрымоўваецца сімволіка. У бягучым сямігоддзі ў «белатракцыён» у нас пераўтвараецца ўсё, да чаго дакранаецца вярхоўная ўлада – яна сама, яе выбары, яе дзяржаўныя сімвалы. Думаю, што хочацца ёй, каб «беларускім атракцыёнам» зрабіліся і кангрэсы беларусістаў, і асабістае прыяцельства.

Таму, па сутнасці, навука патрабавання сатысфакцыі – гэта абарона будучыні.

**Канстанцін МАТУСЕВІЧ**




**НОВАЯ ІНІЦЫЯТЫВА**

## ЮНЕСКО прэзентуе спіс шэдэўраў

18 траўня ў штаб-кватэры ЮНЕСКО ў Парыжы адбудзецца афіцыйная цырымонія абвяшчэння асобных культурных прастораў і формаў выяўлення розных рэгіёнаў «Шэдэўрамі вуснай і нематэрыяльнай спадчыны чалавецтва». Рашэнне міжнароднага журы з 18 сябраў, якое ўзначальвае вядомы іспанскі пісьменнік Хуан Гойцісола, зачытае на гэтай цырымоніі генеральны дырэктар ЮНЕСКО Каіціра Мацуура. Тытул «Шэдэўр вуснай і нематэрыяльнай спадчыны чалавецтва» цяпер будзе прысуджацца унікальным прасторам і формам культурнага выяўлення.

Народныя і традыцыйныя формы культурнага выяўлення ўключаюць мовы, вусную народную творчасць (у прыватнасці, міфы, казкі, эпас), музыку, танцы, ігры, строі, звычаі і рытуалы, народныя промыслы і рамёслы, архітэктуру ды іншыя віды мастацтва. Прасторамі культурнага выяўлення лічацца сталыя і часовыя месцы, дзе рэгулярна ці эпізадычна праходзяць якія-небудзь культурныя маніфестацыі. Пры адборы шэдэўраў журы ўлічвае наступныя паказчыкі: унікальны характар, гістарычная прыналежнасць да культурнай традыцыі, сцвярджэнне культурнай самабытнасці, крыніца натхнення, роля ў міжнародным абмене, сучаснае культурнае і грамадскае значэнне, майстэрства выканання, унікальнае сведчанне жывой культурнай традыцыі, існуючая рызыка знікнення.

Тытул «Шэдэўраў вуснай і нематэрыяльнай спадчыны» будзе прысуджацца кожныя два гады. Гэтая акцыя закліканая садзейнічаць захаванню народных культураў і традыцыяў. Яна дапаўняе дзейнасць ЮНЕСКО па складанні, пачынаючы з 1972 года, Спісу сусветнай спадчыны ЮНЕСКО, які налічвае сёння ўжо 690 назваў культурных і прыродных помнікаў ва ўсіх краінах свету.

**ЮСТЫЦЫЯ**

## Расследаванне спынілі наўмысна

Беларускі паэт Славамір Адамовіч лічыць неабгрунтаваным, але цалкам заканамерным ва ўмовах цяперашняй Беларусі, спыненне расследавання справы аб нападзе, які быў учынены на яго ў красавіку 1999 года.

11 траўня на прэс-канферэнцыі з прычыны знікнення апэратара ОРТ Дзмітрыя Завадскага было паведамлена, што ў межах расследавання дзейнасці злачыннай групы былога афіцэра спецпадраздзялення МУС па барацьбе з тэрарызмам «Алмаз» Валерыя Ігнатовіча ў вытворчасці следчай групы знаходзілася ў цэлым 25 крымінальных справаў. Некаторыя з іх пасля праверкі былі спыненыя, у тым ліку і справа па збіванні Славаміра Адамовіча.

Як вядома, паэт Адамовіч стаў адным з першых палітычных вязняў Беларусі: за свой верш «Убей президента» ён у 1996-1997 гадах правёў у зняволенні 10 месяцаў. Напад на яго адбыўся ў красавіку 1999 года, хутка пасля таго, як ён увайшоў у склад кіраўніцтва мінскай гарадской выбарчай камісіі на выбарах прэзідэнта, абвешчаных Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га склікання, а таксама апублікаваў у прэсе артыкул аб дзейнасці расійскай арганізацыі «Рускае нацыянальнае адзінства» (РНА). Ігнатовіч, як вядома, быў адным з кіраўнікоў незарэгістраванага беларускага аддзялення РНА. Двое невядомых збілі Адамовіча непадалёк ад рэдакцыі газеты «Наша Ніва». Яму былі нанесеныя цялесныя пашкоджанні, якія маглі быць больш сур'ёзнымі, калі б на дапамогу не прыйшоў адзін з супрацоўнікаў газеты.

На прэс-канферэнцыі 11 траўня кіраўнік следчай групы Пракуратуры Беларусі, палкоўнік юстыцыі Іван Бранчэль пацвердзіў атрыманне аператыўных звестак аб датычнасці групы Ігнатовіча да збівання паэта. Аднак, па словах Бранчэля, Адамовіч «не пацвердзіў, што быў факт нападу — хто, дзе, пры якіх абставінах учыніў напад — і нават апісаць гэтых людзей ён адмовіўся». «Таму па гэтым факце мы спынілі крымінальную справу», — заявіў Бранчэль.

У інтэрв'ю БелаПАН Славамір Адамовіч катэгарычна абверг дадзеную заяву пракурора. У сваю чаргу ён паведаміў, што 3 лістапада 2000 года быў выкліканы ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь. Следчы, які дапытваў Адамовіча, сказаў: паводле наяўных звестак, напад на яго «заказаў» Валерый Ігнатовіч, які таксама падазраецца ў шэрагу іншых цяжкіх злачынстваў — выкраданні Завадскага і іншых людзей, некалькіх забойствах. «Мне для апазнання былі прадстаўленыя фотаздымкі магчымых нападаўшых, — сказаў Адамовіч. — Я іх сапраўды не пазнаў, бо ў той сітуацыі, калі мяне збівалі, запомніць твары было немагчыма. Але следчы мне сказаў, што выяўлены адзін з нападаўшых на мяне, нехта Кабзар, 1976 года нараджэння. Яму за выкананне гэтага нападу асабіста Ігнатовічам нібыта было выплачана 50 марак».

Па словах Адамовіча, ён быў гатовы і ў далейшым супрацоўнічаць са следствам, аднак следчыя органы ініцыятывы не праявілі. Выклік у пракуратуру быў адзіным — ніякіх новых допытаў і вочных ставак не было. Такім чынам, справу, у якой прасочваецца палітычная падаплёка і якая, на думку Адамовіча, ужо была фактычна раскрытая, пракуратура наогул спыніла.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Хто хоча вярнуць уклады, варта паспяшацца

Нацыянальны банк Беларусі зацвердзіў правілы датэрміновага вяртання грашовых сродкаў фізічным асобам, якія заключылі з адкрытым акцыянерным таварыствам «Ашчадны банк «Беларусбанк» дагаворы на пагашэнне запазычанасці таварыства з абмежаванай адказнасцю «Сумесны беларуска-латвійскі банк «БелБалтыя».

Паводле звестак з Нацбанка, у гэтым дакуменце дадзены пералік выпадкаў, па якіх будзе рабіцца датэрміновае вяртанне грашовых сродкаў укладчыкаў «БелБалты», што заключаць дагаворы на пагашэнне запазычанасці з Беларусбанкам. Для гэтага ў ААБ «Беларусбанк» пасля 1 ліпеня будзе створаная спецыяльная камісія па датэрміновым вяртанні грашовых сродкаў. Як вядома, заявы на перавод запазычанасці ў ААБ «Беларусбанк» прымаюцца ад укладчыкаў «БелБалты» да 1 чэрвеня 2001 года. На падставе заяваў фарміруецца рэестр укладчыкаў, які да 1 ліпеня будзе перададзены ў ААБ «Беларусбанк». Фізічныя асобы, якія ўключаныя ў рэестр укладчыкаў, заключаюць з 1 ліпеня па 1 верасня 2001 года дагаворы з ААБ «Беларусбанк» аб пагашэнні запазычанасці. Нагадаем, што ў цэлым валютныя даўгі «БелБалты» ўкладчыкам ацэньваюцца прыкладна ў 18 мільёнаў долараў ЗША.

**Аляксей АРЭШКА**

**КНІГАРНЯ**

## Любой другой выбор не будет хуже

**«Хроника несостоявшегося времени: Десять лет в зеркале «Белорусского рынка», Минск, 2001**




В этом году Беларусь будет праздновать первое десятилетие своего реального государственного суверенитета.

Какая-никакая, а уже история. Причем богатая событиями, трагическими и смешными, хотя порой кажется, что вспомнить особенно нечего. В том, что это не совсем так, можно убедиться, раскрыв книгу «Хроника несостоявшегося времени: Десять лет в зеркале «Белорусского рынка», написанную журналистами этой авторитетной экономической газеты. Авторам книги есть что вспомнить, потому что еженедельник стал первым в стране независимым изданием, которое начало систематически отслеживать процессы в самом сложном и интересном информационном секторе – в экономике страны.

Книгу открывает хроника событий, имевших место после 27 июля 1990 года, когда Верховный Совет БССР принял Декларацию о государственном суверенитете, вплоть до января 2001 года. Авторы, каждый из которых имеет в газете собственную специализацию, подготовили хорошие материалы по самым различным аспектам общественно-политического и экономического развития Беларуси. К сожалению, не обошлось без сетований по поводу того, что многое не сделано, что многое надо переделывать. Что, к сожалению, оптимизм приходится высказывать фразой, вынесенной в заголовок: любой другой выбор может быть только лучшим. При условии, что белорусам будет позволено его сделать еще один раз. Ведь многое делалось и делается по сей день, чтобы народ лишить этого права.

Книга написана хорошим языком, добротно оформлена, ее приятно держать в руках и интересно читать. По своему это уникальная работа, максимально свободная от конъюнктурных передергиваний, недостоверности. Все в ней описанное было с нами и случалось с нашей страной. Поэтому книга должна привлечь внимание широкого круга читателей, включая профессиональных экономистов, социологов, юристов, студентов и просто любопытствующую публику.

Особую актуальность работа журналистов приобретает сейчас, накануне выборов, которые должны завершиться сменой приоритетов в политике и экономике. Как это сделать, «Хроника несостоявшегося времени» показывает очень наглядно.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

# Опасности в больницах для бедных

**Дональд А. ГОЛДМАН, профессор педиатрии Гарвардской медицинской школы. Работал над улучшением противоинфекционной защиты во многих развивающихся странах**


Фота IREX/ProMedia

*В развивающихся странах усилия по укреплению общественного здравоохранения в основном направлены на борьбу с распространением инфекционных заболеваний среди населения. Несомненно, данный выбор приоритетов оправдывается высоким уровнем заболеваемости и смертности от таких болезней, как малярия, туберкулез, шистозомоз, детская пневмония и диарея. Но общественность, пресса и агентства-доноры в значительной степени игнорируют другой аспект общественного здравоохранения в странах, испытывающих нехватку ресурсов для поддержания системы медицинского обслуживания, – речь идет о* **больничном инфицировании** *(т.е. об инфекционном заражении, полученном в ходе стационарного лечения).*

Развивающиеся страны тратят свои ограниченные ресурсы на создание и развитие больниц — во многих бедных странах данные расходы составляют более 50 процентов всего бюджета сферы здравоохранения. В этих странах официальные лица прилагают все усилия к выявлению больных членов сообщества и последующей их переправки в региональные медицинские учреждения, персонал которых обладает достаточным опытом для того, чтобы обеспечить должную диагностику и соответствующее лечение. Некоторые из этих медучреждений представляют собой региональные или общенациональные специализированные клинические центры, предлагающие самую передовую — в пределах возможностей данной страны (или ее спонсоров-филантропов) — диагностику и лечение.

Бросается в глаза стремление к дорогостоящему, технологически сложному медицинскому обслуживанию. Отчасти, бедные страны вкладывают в медицину так много денег по той самой причине, что стремятся улучшить качество диагностики и лечения. Отчасти, эти капиталовложения делаются для того, чтобы удержать в стране своих лучших врачей. Эти обучавшиеся в развитых странах доктора возвращаются домой, искренне желая применить новообретенные навыки на практике, а вместо того чувствуют себя явно не в своей тарелке, сталкиваясь с устарелым рентгенологическим оборудованием, ограниченным выбором нерегулярно поставляемых медикаментов и примитивной техникой по поддержанию жизнедеятельности организма. Высокотехнологичные больницы – еще и символ высокого статуса, поэтому для многих стран строительство наисовременнейших медицинских учреждений является вопросом государственного престижа.

Если государство вкладывает большие средства в больницы и врачей, стремящихся улучшить качество медицинского обслуживания, то оно со всей очевидностью ожидает увеличения числа случаев выздоровления. Но такие ожидания оправдываются далеко не всегда. В действительности эти огромные инвестиции нередко оказываются контрпродуктивными. Многие пациенты попадают в больницу лишь затем, чтобы пасть жертвой потенциально смертельной и устойчивой к антибиотикам инфекции, которой зачастую можно было бы избежать.

Чем сложнее (и дороже) лечение, тем выше степень риска. Наибольшей опасности подвергаются пациенты палат интенсивной терапии (ПИТ). Скопление большого количества смертельно больных пациентов в одной палате облегчает распространение болезнетворных микроорганизмов: медицинский обслуживающий персонал переносит их на своих руках. Помещенные в палаты интенсивной терапии пациенты быстро поражаются больничными патогенными бактериями, зачастую устойчивыми к воздействию антибиотиков.

Пациенты палат интенсивной терапии уязвимы для инфекций из-за того, что их подключают к различным лечебным устройствам (таким, как внутривенные или внутриартериальные катетры и механические вентиляторы), подвергают сложным хирургическим процедурам и лечат лекарствами, ослабляющими иммунную систему. В развивающихся странах палаты интенсивной терапии отличаются не только высоким фоновым уровнем инфицированности; зараженность оборудования, медикаментов и прочих расходных материалов также приводит к опустошительным вспышкам пневмонии и смертельно опасных инфекций, переносимых с током крови.

Однажды меня и моего коллегу пригласили посетить общественную больницу в одной развивающейся стране для того, чтобы принять участие в расследовании причин исключительно высокого уровня смертности в педиатрической палате интенсивной терапии пациентов, страдающих от геморрагической лихорадки денге. Господствующая теория объясняла это высокой вирулентностью вируса денге. Вместо того мы обнаружили, что большинство детей погибало от приобретенных в больнице инфекций, переносимых с кровью, и эти инфекции переносились теми самыми приборами, которые были предназначены для спасения жизни детей: внутривенными капельницами, механическими вентиляторами и дренажными катетрами.

Несмотря на удовлетворительное качество оборудования, санитарно-гигиеническое состояние больницы и уровень подготовки персонала явно были не на высоте. Сырое полотенце, кишащее больничными бактериями, использовалось для вытирания рук. Внутривенные капельницы и дренажные катетры были введены неправильно, и за ними не соблюдался должный уход. Вытяжная труба (подвешенная для осушки отхожего места в полу) не была продезинфецирована надлежащим образом. Мы обнаружили бесчисленное количество нарушений элементарных правил гигиены. Тем не менее, в той же самой больнице совсем недавно было открыто отделение по пересадке костного мозга – отдающее наиболее уязвимых пациентов во власть смертельно опасных инфекций.

Надежная дезинфекция обходится гораздо дешевле, чем даже самые элементарные медицинские процедуры. Живущие на пожертвования страны с ограниченными ресурсами не могут полностью обеспечить свои больницы всем тем разнообразием дезинфекционных средств, которые доступны в более богатых государствах.

Надлежащая дезинфекция оборудования как правило доступна по цене (особенно в сравнении со стоимостью самого оборудования), а заражения медикаментов и растворов можно избежать, если вести себя профессионально и осторожно.

Опыт показывает, что внутрисосудистые катетры, вентиляторы и полостные катетры в тех больницах, в которых они имеются в наличии, используются сверх меры, и зачастую вводятся на срок, превышающий медицинские показания. Это – наихудший сценарий: дорогостоящие материалы бросаются на ветер, а опасность инфицирования возрастает.

© **Project Syndicate, 2001**

**СПОРТ**

# Інтрыга захоўваецца

*Апошняя хваліна мінскага матча паміж «Дынама» і «Славіяй» з пятага тура чэмпіянату Беларусі па футболе прынесла значныя змены ў турнірным становішчы гэтых камандаў.*

Гол-прыгажун мазыраніна Дзяніса Пярвушына прынёс мінулагодняму прамоўжцу першынства тры ачкі замест аднаго і дазволіў зноў працягнуць гонку за лідэрамі.

Падцягнуўся да гэтай групы і бескампрамісны «Днепр-Трансмаш» з Магілёва, абыграўшы на выездзе наваполацкі «Нафтан-Дэвон» – 1:0.

Гродзенскі «Неман-Белкард», як гаворыцца, ушчэнт, разбіў у Рэчыцы паўфіналіста Кубка краіны мясцовы «Ведрыч-97» і адразу ўзнёсся на чацвёрты радок табліцы. Гомель, развітаўшыся з галоўным трэнерам Аляксандрам Кузняцовым, які з'ехаў дамоў у Расію трэніраваць ЦСКА, зрабіў падарунак свайму новаму настаўніку Валерыю Янанчкіну, атрымаўшы цудоўную перамогу над салігорскім «Шахцёрам» – 3:1, і, па выпадку, запісаў у сваю футбольную гісторыю 50 па ліку хатні выйгрыш. Нарэшце, першае ачко зававалі дынамаўцы Брэста, але гэта не вельмі уражвае спецыялістаў, таму што яно было здабыта дома ў сустрэчы з дэбютантам з Маладзечна. Знік апошні «нуль» у графе «ачкі».

Клуб-амбіцыя БАТЭ з Барысава «насуха» – 3:0 перамог віцебскі «Лакаматыў-96», зноў даказаўшы, што для футбалістаў Юрыя Пунтуса няма розніцы, дзе перамагаць.

Увогуле, на гэты раз госці выглядалі лепей за гаспадароў, дазволіўшы тым узяць усяго тры ачкі з 21 магчымых.

На пачатку другога тайма цэнтральнага матча паміж аўтазаводцамі сталіцы і «Белшынай» з трыбун тарпедаўскага стадыёна пачалі хуценька знікаць людзі, адбыўся нейкі збег глядачоў, якіх прыйшло на матч больш як калі-небудзь. І прычынай гэтага была не нейкая акцыя міліцыі, якой, дарэчы, было не менш за аматараў футбола, ды не лік на табло (0:1, гульня так і завершылася), а моцны лівень. На жаль, вельмі прытульны стадыён не здагадаўся абзавесціся на трыбунах дахам, а парасоны не заўжды могуць выратаваць, калі дождж ідзе, напрыклад, усю гульню.

Нешта трэба рабіць, па прагнозу сіноптыкаў лета будзе вельмі хмурлівым. А звык фанатаў вы павінны шкадаваць.

Пасля гэтай перамогі бабруйчане сталі адзінай камандай, якая не страціла ніводнага ачка. Адразу пасля фінальнага свістка я павіншаваў трэнера Вячаслава Акшаева:

*– Вы действительно настолько сильны, что разделываете всех соперников?*

– Причин несколько. В каждой игре мы сражаемся до конца. И у нас есть равноценные игроки на два состава. Вот сегодня дали возможность отдохнуть, казалось бы, основным пяти футболистам, а получилось, что те, кто вышел на поле, сыграли не хуже.

В этом сезоне выдался очень жесткий график: играем через три дня на четвертый. Поэтому с нетерпением ждем паузы в чемпионате, чтобы добавить еще физических кондиций.

*– Простите, но, в определенной мере, вы виноваты сами, играя сразу на два фронта. Первенство и Кубок. Кстати, не думаете ли в этом году сделать дубль?*

– Об этом еще рано говорить. Но почему бы нет. Будем стараться. И терпеть. Как бы трудно ни было.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

| | Г | П | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Белшына | 5 | 5 | 0 | 0 | 9-0 | 15 |
| 2. БАТЭ | 5 | 4 | 1 | 0 | 10-2 | 13 |
| 3. Славія | 5 | 3 | 2 | 0 | 13-3 | 11 |
| 4. Неман-Белкард | 5 | 3 | 1 | 1 | 13-3 | 10 |
| 5. Днепр-Трансмаш | 5 | 3 | 0 | 2 | 7-6 | 9 |
| 6. Дынама Мн | 5 | 2 | 1 | 2 | 10-8 | 7 |
| 7. Гомель | 5 | 2 | 1 | 2 | 5-3 | 7 |
| 8. Тарпеда-МАЗ | 5 | 2 | 1 | 2 | 4-4 | 7 |
| 9. Шахцёр | 5 | 1 | 3 | 1 | 5-6 | 6 |
| 10. Маладзечна-2000 | 5 | 1 | 2 | 2 | 2-7 | 5 |
| 11. Ведрыч-97 | 5 | 1 | 0 | 4 | 4-13 | 3 |
| 12. Лакаматыў-96 | 5 | 1 | 0 | 4 | 2-14 | 3 |
| 13. Нафтан-Дэвон | 5 | 0 | 1 | 4 | 2-10 | 1 |
| 14. Дынама Бр | 5 | 0 | 1 | 4 | 1-9 | 1 |

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1709 Нумар падпісаны ў друк 15/05/2001 (15:00) Наклад – 9.160